# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 46 (820) ГОД XVI БЕЛАСТОК 14 ЛІСТАПАДА 1971 г. ЦАНА 60 гр.




*Лістападаўскі пейзаж з ваколіц Крукаўшчызны, Сакольскага павета.* *Фота: Раман Прускі.*

## БГКТ хроніка

■ Пры Галоўным праўленні створана камісія, якая будзе выязджаць у аддзелы на агляды драматычных калектываў і на агляды беларускай песні. Камісія выбярэ найлепшых самадзейнікаў на заключныя агляды ў Беластоку. Падаем склад гэтай камісіі: Вера Валкавыцкая — журналіст «Ніва» (старшыня), Мар'я Суадзі — аддзел культуры ВРН, Тадэуш Калдоўскі і Рышард Войніч — ВДК, Віталіс Кобус — ваяводскае праўленне ЗМВ, Антоні Мацяеўскі — ВЗГС, Рышард Гратоўскі — ЗОСП, Сабіна Палубінская — клуб ВКЗЗ, Рышард Мэлькэ — ваяводскае праўленне «Рух», Сяргей Лукашук, Тэкля Вашчук і Зося Стаськевіч — ГП БГКТ.

■ 28 кастрычніка прэзідыум ГП абмеркаваў стан беларускага школьніцтва на Беласточчыне і кадравыя справы эстрады «Лявоніхі». Між іншым абавязкі кіраўніка эстрады прэзідыум паверыў салістцы «Лявоніхі» Тэклі Вашчук. Бухгалтар ГП Галена Мялешка паінфармавала членаў прэзідыума аб выкананні бюджэту за мінулыя тры кварталы 1971 года. Прэзідыум зацвердзіў мастацкіх кіраўнікоў харавых калектываў: гарадоцкім хорам далей будзе кіраваць Сцяпан Копа, бельскім хорам — Сяргей Лукашук і гайнаўскім — Аляксандр Лукашук.

■ 29 кастрычніка кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП Сяргей Лукашук у Любліне спаткаўся з членамі гуртка БГКТ, у склад якога ўваходзяць студэнты, і абмеркаваў з імі далейшыя напрамкі бэгэкатоўскай дзейнасці.

■ Нядаўна адбыўся справаздачна-выбарны сход гуртка БГКТ у Рыбаках. З дакладам выступіў старшыня гуртка Мікалай Хлябіч. Гурток налічвае зараз 19 членаў. Удзельнікі сходу зацвердзілі план працы і выбралі новае праўленне: Мікалай Хлябіч — старшыня, Аляксандр Хлябіч — сакратар, Анастасія Лукша — скарбнік і Мікалай Міруць — член. У сходзе ўзяла ўдзел сакратар беластоцкага (павятовага) праўлення аддзела Валя Філіпюк.

■ Справаздачна-выбарны сход з удзелам Валі Філіпюк адбыўся таксама ў вёсцы Зубры. Са справаздачным дакладам выступіла Крыстына Гайдучэня. Пасля дыскусіі і зацвярджэння плана далейшай дзейнасці адбыліся выбары праўлення гуртка. У склад праўлення ўвайшлі: Крыстына Гайдучэня — старшыня, Зіна Смолей — сакратар, Генрык Гайдучэня — скарбнік. Гурток гэты налічвае зараз 17 асоб.

■ Справаздачна-выбарную кампанію пачаў ужо і гайнаўскі аддзел БГКТ. Нядаўна адбыўся справаздачна-выбарны сход у гуртку БГКТ у Дубічах Царкоўных. На сход прыбыло 59 асоб. З дакладам выступіў Мікалай Панфілюк. Пасля плённай дыскусіі і зацвярджэння плана працы, выбрана было праўленне гуртка ў наступным складзе: Люба Блізнюк — старшыня, Мікалай Чыквін — сакратар, Мікалай Панфілюк — скарбнік, Надзя Нястэрук і Янка Леўчук — члены. Дэлегатамі на канферэнцыю аддзела выбраны Люба Блізнюк і Віктар Бура — сакратар аддзела, які ўзяў удзел у сходзе. Вёў сход Мікалай Чыквін.

■ Падрыхтовачныя сходы да справаздачна-выбарных сходаў адбыліся ў Масцісе ў Дуброўскім павеце з удзелам Расціслава Мазалеўскага і ў вёсцы Лазні на Сакольшчыне з удзелам Ірэны Аношка.

■ У бельскім аддзеле справаздачна-выбарныя сходы адбыліся ў Агародніках, Малінніках, Войшках і Катлах.

(мх)

## ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

# АЛЯКСАНДР КАВАЛЬСКІ



Аляксандр Кавальскі з'яўляецца перадавым селянінам у вёсцы Кутова, Гайнаўскага павета. Штогод паспяхова аддае ён падатак і абавязковыя пастаўкі збожжа, мяса і бульбы, а таксама добра выконвае планы кантрактацыі збожжавых культур і планы выкупкі мінеральных угнаенняў. Планы выкупкі мінеральных угнаенняў Аляксандр Кавальскі нават перавыконвае. Гаспадарыць ён на 6 гектарах зямельных угоддзяў. Збожжавыя культуры займаюць у яго 2 гектары. У гэтым годзе збожжа абрадзіла, і таму Аляксандр Кавальскі нават перавыканаў свой кантрактацыйны план на 100 кілаграмаў жыта.

Але не толькі раслінаводствам займаецца Аляксандр Кавальскі, нават перш за ўсё — гадоўляй свіней. У мінулым годзе прадаў ён дзяржаве 14 кормнікаў, а ў гэтым годзе ўжо 7.

Апрача свіней гэты перадавы гаспадар гадуе 4 дойных кароў, двух коней і племянных авечак. У працы карыстаецца ён млынком для драблення зерня, цэнтрыфугай, электрарухавіком, касілкай, сячкарняй і іншымі сельскагаспадарчымі машынамі. Збожжа сее сеўнікам, бо, як сам пераканаўся, гэта выходзіць куды больш эканамічна і гэтак пасеянае збожжа дае лепшы ўраджай. Пры ворыве або абмалотах карыстаецца сельскагаспадарчымі машынамі, якія бярэ з МБМ-у ў Ласінцы.

Варта адзначыць, што Аляксандр Кавальскі вядзе доследныя палеткі з бульбай. На яго зямельных угоддзях найлепш удаецца бульба «флісак», хаця не кепскія ўраджаі даюць такія гатункі, як «эпоха» і «вышабroom»... 

Тэкст і фота: Я. Цялушэцкі

## ЗЬХОДЗЯЧЫ З ДЫРЭКТЫЎ ПАРТЫІ

# РАЗМОВА ПА ШЧЫРАСЦІ

18 кастрычніка ў Беластоку на нарадзе перадавых гаспадароў — членаў ЗСЛ з удзелам старшыні Галоўнага камітэта ЗСЛ Станіслава Гуцвы і сакратара Мечыслава Марца многа гаварылася аб нашай сельскай гаспадарцы.

Сцвярджаючы вялікія перамены на лепшае, удзельнікі нарады выявілі адначасова шмат недахопаў рознага характару, якія перашкаджаюць у хуткім павелічэнні сельскагаспадарчай прадукцыі. А вось некаторыя з іх.

Адной з вельмі важных спраў з'яўляецца недастатковая праца сельскагаспадарчай службы. У некаторых мясцовасцях аграномы замест таго, каб несці свае веды сялянам, каб раіць і дапамагаць ім у выкарыстоўванні сучаснай агратэхнікі, праседжваюць у сядзібах ГРН-аў або ў сваіх агранамоўках і мала паказваюцца на вёсках. А ў некаторых аграномаў адчуваецца недахоп ведаў. Малады гаспадар з Дуброўскага павета расказваў аб тым, як у яго сілібе аграном арганізаваў паказовае заквашванне зялёнай масы. Але гэтая «кішонка», якой было больш 20-ці тон, спарылася і згніла. Гаспадар страціў многа корму, а ўсе павакольныя сяляне далей не вераць у сіласаванне.

Працяг на стар. 4



*Дзяўчына з косамі.* *Фота Цаф — Сянько.*

# СЯМЯЦІЧЫ



*На аўтобусным прыпынку ў Сямяцічах.*



*Вуліца пры пляцы Вызвалення.*

Сямяцічы знаходзяцца ў паўднёвай частцы Беластоцкага ваяводства над рэчкай Камёнкай. Навакольныя курганы сведчаць аб тым, што гэтыя землі былі даўно заселены. Першая даведка датычыць надання Сямяцічаў Баруце з Фалентаў. Потым Сямяцічы належаць да Тэнчынскіх, Шыдлоўскіх, Радзівілаў, Сапегаў і Ябланоўскіх. У XVII стагоддзі Сапегі будуюць касцёл, а ў XVIII стагоддзі — манастыр місіянераў. Найбольшы росквіт Сямяцічаў наступае за часы Анны Ябланоўскай. Будуе яна ў 1777 годзе палац з багатай бібліятэкай, слаўным у Еўропе кабінетам натуральнай гісторыі, двухпавярховую ратушу, друкарню, прамысловыя прадпрыемствы, школу акушэрак і г.д. праводзіць гаспадарча-адміністрацыйныя рэформы. За часы яе панавання значна палепшылася доля падданых сялян. У XIX ст. у Сямяцічах было 5 сукенных прадпрыемстваў.

У час II сусветнай вайны горад гэты быў зруйнаваны ў 25 працэнтах. У 1952 годзе Сямяцічы сталі сядзібай павятовых улад. Зараз у Сямяцічах ёсць некалькі пачатковых і сярэдніх школ, бальніца, фабрыка абутку і фабрыка будаўнічых матэрыялаў. Пражывае 6856 жыхароў.

*Тэкст і фота: Я. Цялушэцкі*



ЗУРТ.



*Пляц дзіцячых гульняў перад жылымі дамамі.*



*Пляц Вызвалення.*

*У цэнтры Сямяціч пабудаваны прыгожы помнік, заснаваны грамадствам Сямяціцкага павета ў гонар загінуўшых у апошнюю вайну салдат.*

## МУЗЕІ І ПОМНІКІ СТАРАДАЎНАСЦІ

У апошніх гадах на Беласточчыне пачало развівацца музейніцтва. Існуе зараз 8 дзяржаўных музеяў і 4 грамадскія. Да 1975 года колькасць музеяў узрасце да 15. Дзесяць з іх будзе фінансавана з бюджэту рад нарадовых.

На Беласточчыне ў апошнія гады шмат арганізоўваецца таксама пакояў народнай памяці. Існуе іх ужо 34. Хутка будзе каля паўтары сотні. Ужо арганізавана больш 100 экспазіцый, якія становяць зародак будучых пакояў памяці. І гэта вельмі добра. Пакоі народнай памяці вучаць патрыятызму, пашаны для нашай гісторыі, вучаць інтэрнацыяналізму.

Выхаваўчыя вартасці маюць таксама гістарычныя помнікі. Дзяржава наша апякуецца імі, а некаторыя з іх адбудоўвае. У бягучым 5-гадовым плане прадбачваецца адрэстаўраваць больш 30 аб'ектаў архітэктурных помнікаў. А вось некаторыя з іх: былы арсенал Браніцкіх у Беластоку, былыя манастыры ў Бельску Падляшскім і Сейнах, палац у Страблі і іншыя. Будуць яны выкарыстаны як пляцоўкі культуры. Напрыклад, у Бельску Падляшскім у гэтым будынку будзе змяшчацца музычная школа. (мх)

## Супольна

Аб будове Дома настаўніка ў Гарадку Беластоцкага павета можна ўпэўнена сказаць, што адбываецца яна супольнымі сіламі гарадоцкага грамадства. Кіруе будовай спецыяльна створаны для гэтага грамадскі камітэт на чале са старшынёй бацькоўскага камітэта школы Канстанцінам Рагачэўскім, які (варта гэта падкрэсліць) ужо 18-ты год нязменна выконвае гэтую адказную грамадскую функцыю. У камітэт пабудовы ўвайшлі таксама такія актыўныя асобы, як Аляксандр Карпюк, Мікалай Кузьміч і шэраг іншых. Камітэт патрапіў змабілізаваць да гэтага карыснага пачыну бацькоў і прадпрыемствы Гарадка і яго ваколіц. На яго заклік прыйшлі з дзейснай дапамогай раён прадукцыі «Лес» з Беластока, ГС з Гарадка, ПГР з Валілаў і сельскагаспадарчы гурток з Белявіч.

Працуюць на будове бацькі, старэйшыя браты школьнікаў, працуюць «пры лапаце» і настаўнікі.

Дом настаўніка будзе двухпавярховым будынкам, і ў ім атрымаюць выгадныя 3-пакаёвыя кватэры чатыры настаўніцкія сем'і. Пабудова Дома настаўніка палепшыць не толькі кватэрныя ўмовы настаўнікаў, але і зволніць у школе два памяшчэнні, у якіх педагагічны савет школы намерваецца абсталяваць школьную бібліятэку з чытальняй і кабінет практычна-тэхнічных заняткаў.

Агульны кошт пабудовы складзе каля мільёна злотых, у тым ліку 700 тысяч злотых паступіць на пабудову з грамадскага фонду будовы школ і інтэрнатаў, а звыш 200 тысяч злотых будзе выпрацавана ў грамадскім чыне. Дом плануецца здаць да ўжытку ў месяцы ліпені 1972 года.

(мг)

## „ЛЮБІМЫ ГОРАД"

Чацверты год ужо працягваецца агульнапольскі конкурс гарадоў (да 20 тыс. жыхароў) на званне «Майстар гаспадарнасці».

Розна бывае з гэтым конкурсам на Беласточчыне. Найлепшы тут Манецкі павет, які прадставіў да ўдзелу ў конкурсе ў гэтым годзе тры гарады з павета. Найгорш у Беластоцкім павеце, дзе аніводзен горад не прымае ўдзелу ў конкурсе. А конкурс прапагуе ж добрыя рэчы: разбудову, вырашэнне многіх людскіх спраў, як лепш жыць, лепш працаваць, хадзіць па чыстых вуліцах і г.д. Аж дзіў бярэ, што бываюць гаспадары гарадоў, якія не хочуць узнімаць у сваёй дзейнасці гэтакіх спраў!

Колькі добрага было зроблена ў рамках конкурсу ў такіх гарадах, як Алецка, Цехановец, Райгруд. Гэтыя гарады выйгралі спаборніцтвы ў мінулыя гады. За выйгранае спаборніцтва атрымліваюцца вялікія ўзнагароды грашыма, якія зноў ідуць на патрэбы горада.

У гэтым годзе, як сведчаць вынікі за І паўгоддзе, Гайнаўка мае вялікую ахвоту перамагчы ўсіх канкурэнтаў.

Другім з гарадоў, які таксама мае ў конкурсе вялікія амбіцыі, з'яўляецца Бельск. На сходзе старшынь занатавала я такое здарэнне: гайнаўскі старшыня Ляшчынскі сказаў, што яны пастараюцца забраць першае месца. Потым, выступаючы, бельскі старшыня Рэзлер востра зарэплікаваў: мы пазмагаемся з Гайнаўкай і нялёгка ім з намі прыдзецца.

У гэтым годзе ў Беластоцкім ваяводстве на 31 горад, якія кваліфікуюцца да конкурсу, прыступіла толькі 17.

Беручы такі факт пад увагу, адзначаем, што конкурс, на нашу думку, павінен быць масавым.

Гарады Беластоцкага ваяводства не могуць не датрымліваць кроку сучаснасці.

*Вера Леўчук*




Настала цяжкія дні для вясковых дзяцей, якія вымушаны далёка хадзіць у школу. Часта бачым іх змоклых, а зімой заснежаных, аброслых інеем. Сярод гэтай арміі вучняў сустракаем часта і найменшых. Усім ім трэба аказваць дапамогу і сэрца.

Як і ў мінулыя гады, аб'яўлена вялікая акцыя дапамогі дзецям пад агульным лозунгам «Шафёр, дапамажы дзіцяці!»

Калі ў цябе будзе свабоднае месца ў самаходзе і ты ўбачыш на дарозе ідучага вучня, не будзь абыякавым: затрымайся, вазьмі яго і падвязі!

Кіраўніцтвы школ і настаўнікі! Звяртаемся да вас з просьбай: зрабіце купоны — картачкі, на якіх вучні напішуць словы «Dziękuję Ci kierowco!»

Гэтыя картачкі павінны быць аштэмпляваны школьнай пячаткай. Паштэмпляваную картачку ўручае дзіця кожнаму шафёру, які яго падвёз. Гэтыя картачкі вадзіцелі збіраюць, каб потым да 1 мая 1972 года пераслаць іх ва ўласцівы аддзел камунікацыі. Тыя, што будуць мець найбольш купонаў, атрымаюць узнагароды.

Мінулагодняя акцыя выказала, што купоны «Dziękuję Ci kierowco!» прыслала 67 вадзіцеляў, якія перавязлі 29.701 дзяцей. Тэрытарыяльна ў мінулагодняй акцыі прынялі ўдзел вадзіцелі з 15-ці паветаў. Сярод іх не было прадстаўнікоў з Гайнаўскага, Лапскага, Кольненскага і Высокамазавецкага паветаў. Гэта не азначае, што тамтэйшыя вадзіцелі абсалютна не дапамагаюць дзецям, а толькі тое, што яны не прынялі ўдзелу ў арганізаванай акцыі. Ваяводскі штаб акцыі, ацэньваючы мінулы год, падкрэсліў, што віна тут была і з боку павятовых штабаў, якія недастаткова распрапагавалі акцыю сярод вадзіцеляў, а ў пэўнай меры і школ, якія з розных прычын не дапамаглі дзецям у афармленні картачак-купонаў.

Вельмі просім нашых чытачоў прысылаць пісьмы з прыкладамі аказвання дапамогі дзецям. А. К.

ДА 150 ГАДАВІНЫ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

# АБАРОНЦА ПАНІЖАНЫХ і АБРАЖАНЫХ

*«Людзі могуць быць вельмі добрымі і шчаслівымі, не страціўшы здольнасці жыць на зямлі. Я не хачу і не магу верыць, каб зло было нармальным станам людзей».*

*Ф. М. Дастаеўскі*

Федар Міхайлавіч Дастаеўскі належыць да кагорты самых выдатных пісьменнікаў XIX стагоддзя. А. М. Горкі лічыў, што «геніяльнасць Дастаеўскага непадважальная, па сіле выяўленчасці яго талент роўны, магчыма, толькі Шэкспіру».

Нарадзіўся Ф. М. Дастаеўскі 11 лістапада 1821 года ў сям'і лекара, які працаваў у шпіталі для бедных у Маскве. Бацька будучага пісьменніка паходзіў з сям'і духоўнага, а маці з купецтва. Бацька ў 1828 годзе дабіўся звання двараніна, набыў у 1831 годзе невялічкі маёнтак у Тульскай губерні, вельмі жорстка абыходзіўся з сялянамі. Даведзеныя да крайнасці яго здзекамі, сяляне забілі ў 1838 годзе бацьку Дастаеўскага. Федар Дастаеўскі пасля заканчэння ў 1843 годзе ваенна-інжынернага вучылішча ў Пецярбургу толькі адзін год працаваў у вывучанай ім прафесіі. Пакінуў яе і з 1844 года ўсяцэла заняўся літаратурнай дзейнасцю. Ужо першая яго аповесць «Бедныя людзі» (1845) адразу звярнула на сябе ўвагу і чытачоў і літаратурнай крытыкі. У ёй асабліва моцна прагучаў голас маладога пісьменніка ў абароне простага, малога чалавека, прыдушанага і абяздоленага царскімі ўладамі і багачамі. Вядучы рускі крытык дэмакратычнага напрамку В. Р. Бялінскі, высока ацэньваючы гэтую аповесць, падкрэсліў, што яе аўтар у бяспраўнай і загнанай асабовасці адкрыў вялікую чалавечнасць.

Неўзабаве выходзяць з друку наступныя аповесці Ф. М. Дастаеўскага «Двайнік», «Гаспадыня», «Белыя ночы», «Нетачка Нязванава». У іх, побач з рэалістычным паказам трагічнага лёсу маленькіх людзей, паяўляюцца ўпершыню спецыфічныя рысы творчасці пісьменніка, якія ў пазнейшы час будуць пераважаць у яго творах: паглыблены псіхалагізм, аналіз раздваення людской свядомасці, надзвычайнасць характараў і сітуацый.

Ф. М. Дастаеўскі пачынае цікавіцца ідэямі сацыялізма. Ён наведвае сходы гуртка М. В. Петрашэўскага, у якіх прымалі ўдзел прадстаўнікі перадавой рускай інтэлігенцыі таго часу. Удзельнікі гэтых сходаў абмяркоўвалі розныя праблемы рэвалюцыйнага пераўтварэння грамадскага ладу ў царскай Расіі. У 1849 годзе Ф. М. Дастаеўскі разам з іншымі ўдзельнікамі гуртка быў арыштаваны і пастаўлены пад суд. Яго засудзілі на пакаранне смерцю. У апошнюю мінуту перад расстрэлам цар змяніў смяротны прысуд чатырма гадамі катаргі, а пасля яе адбыцця — прымусовае служэнне радавым у царскай арміі. У калядную ноч 1849 года ён разам з іншымі арыштантамі, закаваны ў кандалы, быў адпраўлены па этапах на 10 год у Сібір.

Страшны час катаргі і ссылкі, калі паводле слоў самога пісьменніка, ён «быў пахаваны жыўцом і замкнуты ў труне», знайшоў адлюстраванне ў яго «Запісках з Мёртвага дому» (1862). У іх Ф. М. Дастаеўскі праўдзіва прадставіў жудасць царскай катаргі, здзекі над чалавечай асобай, жорсткасць і дзікасць панаваўшых там звычаяў. Гэты твор І. В. Тургенеў па сіле ўздзеяння параўнаў з «Пеклам» А. Дантэ, а А. І. Герцэн са «Страшным судом» Мікеланджэла.

Пасля вяртання ў Пецярбург пісьменнік публікуе раман «Паніжаныя і абражаныя» (1861), дзе знайшлі адлюстраванне жорсткія супярэчнасці вялікага горада, прыгнёт багатымі распуснікамі паніжаных і абражаных беднякоў.



Ф. М. Дастаеўскі. Гравюра В. Фаворскага.

Ён актыўна ўключаецца ў тагачаснае літаратурнае жыццё Расіі, займаецца выдаваннем часопісаў («Время», закрытае царызмам у 1863 г., і «Эпоха», закрытая ў 1865 г.), выступае з публіцыстычнымі і крытычнымі артыкуламі, піша новыя аповесці і раманы. Аднак у яго поглядах назіраецца рэзкі адыход ад рэвалюцыйных ідэй. Ён заклікае да яднання дваранства і народа, да «ўсеагульнага духоўнага прымірэння» прыгнечаных з прыгнятальнікамі, а ў «Запісках з падполля» (1864) выступае са злоснымі нападамі на рэвалюцыянераў і сацыялізм. І ў той жа час Ф. М. Дастаеўскі асуджае капіталістычныя парадкі. У 1866 г. публікуе свой раман «Злачынства і пакаранне», у якім выразіў свой пякучы боль за зняважанага і паніжанага чалавека, якога капіталістычнае грамадства асудзіла на адзіноцтва і пакуты.

У рамане «Ідыёт» (1869) Ф. М. Дастаеўскі спрабаваў стварыць вобраз станоўчага героя, процілеглага жорсткаму і бруднаму свету драпежнікаў і славалюбаў, гандлярству і бесчалавечнасці тагачаснага грамадства. Аднак усе чэсныя і шляхетныя людзі — героі гэтага рамана — гінуць, не здолеўшы перамагчы воўчых правоў грамадства.

У 1872 годзе пісьменнік публікуе раман «Чэрці», у якім злосна заатакаваў тагачасны рускі рэвалюцыйны рух. Паводле А. М. Горкага, гэты твор — «самая таленавітая і самая злосная з усяе безлічы спробаў зняславіць рэвалюцыйны рух сямідзесятых гадоў».

У рамане «Падлетак» (1875) пісьменнік прадставіў пошукі і мітусню прадстаўніка маладога пакалення, які з дзяцінства быў апантаны прагай узбагачэння — «стаць Ратшыльдам».

У апошнім сваім рамане «Браты Карамазавы» (1880) Ф. М. Дастаеўскі на прыкладзе лёсу адной дваранскай сям'і раскрывае шырокую і трагічную карціну сучаснага яму грамадства, выкрывае пачварныя, скажоныя адносіны паміж людзьмі, іх хворыя і разгубленыя душы ва ўмовах улады грошай, нястрымнага праяўлення дзікіх, звярыных жаданняў, жудаснага эгаізму і душэўнай брыдоты.

Памёр Ф. М. Дастаеўскі 9 лютага 1881 года ў Пецярбургу.

Уздзеянне яго творчасці на сусветную літаратуру было і застаецца велізарным. Самыя лепшыя пісьменнікі Захаду з гонарам сцвярджаюць, што іх настаўнікам быў Ф. М. Дастаеўскі. Як заўважыў А. М. Горкі, у часы панавання капіталізму «павінен быў паявіцца чалавек, які ўвасобіў бы ў сваёй душы памяць аб усіх гэтых муках людскіх і прадставіў гэтую страшную памяць». Такім чалавекам і быў Ф. М. Дастаеўскі.

*Мікалай Гайдук*

## КУТОК ГАСПАДЫНІ

## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ЯШЧЭ ПРА ЗАПЯКАНКІ

*Сёння працягваем нашу серыю запяканак.*

### ГРЫБНАЯ ЗАПЯКАНКА

На дзень раней намачыць 5—6 сушаных грыбоў. На другі дзень зварыць, нарэзаць палосачкамі. Абабраную бульбу (3/4 кг) нарэзаць тоўстымі скрылёчкамі і абварыць 5 мінут у кіпячай салонай вадзе. 4 яечкі зварыць, каб былі крутыя, абабраць, таксама нарэзаць скрылёчкамі. У каструльку, змазаную тлушчам і пасыпаную молатымі сухарамі класці пластамі бульбу, рэшткі смажанага або варанага мяса, грыбы і нарэзаную кружочкамі цыбулю, пасыпаць соллю і перцам. Апошні пласт бульбы заліць паўшклянкай смятаны, змешанай з грыбным выварам і лыжкай мукі, і ўставіць каструльку на паўгадзіны ў духоўку. Найлепш падаваць гэтую запяканку з кіслай капустай або агуркамі.

### РЫБНАЯ ЗАПЯКАНКА

Філе рыбы (40 дэкаў) зварыць у пасоленай вадзе разам з цыбуляй, лаўровым лістом, некалькімі зёрнамі перцу. Рыбу абсушыць на сіце і дробненька нарэзаць. Шклянку зваранага рысу вымяшаць з лыжкай масла, баначкай абсушанага на сіце зялёнага гарошку, зваранай рыбай, ды пяццю добра збітымі бялкамі. Масу асцярожна вымяшаць і палажыць у каструльку, змазаную тлушчам і пасыпаную молатымі сухарамі. Пасыпаць зверху сцертым на тарцы жоўтым сырам і ўставіць у гарачую духоўку мінут на 20. Найлепш падаваць такую запяканку з салатам з морквы, хрэну і яблыка.

### РЫСАВАЯ ЗАПЯКАНКА З ЯБЛЫКАМІ

Закіпяціць шклянку вады з 1,5 шклянкай малака. Дадаць паўтары шклянкі перапаласканага рысу і варыць 5 мінут, пасля чаго каструльку загарнуць у газеты, фолію і коўдру, ды так пакінуць на 2—3 гадзіны. 1 кг яблыкаў-антонавак абабраць і выняць з іх сярэдзіну. Парэзаць на часткі, палажыць іх у каструльку, даліць крыху вады і разварыць яблыкі. Пасля гэтага дадаць паўшклянкі цукру і ванілін, зняць з агню.

Звараны рыс вылажыць у міску, дадаць сцёртыя з трыма лыжкамі цукру тры жаўткі, сцертую лімонную скурку, і збітыя на цвёрдую пену бялкі. Лёгка вымяшаць.

У змазаную тлушчам тартаўніцу палажыць палову рысу, пасля яблыкі, пасля рэшту рысу, паставіць у гарачую духоўку. Пячы паўгадзіны. Гатовую запяканку пасыпаць цукрам, або яшчэ лепш паліць збітай з цукрам смятанкай.

Раім рабіць вам часцей запяканкі: работы найчасцей нямнога, а прыемнасці шмат: усё ж нейкае новае блюда, усё ж інакш.

*Гаспадыня*

ГЮНТЭР ЛЕЙС




*Гюнтэр Пейс — заходнегерманскі журналіст, дакументальная аповесць якога друкуецца ніжэй, прыклаў шмат працы, каб расшыфраваць загадку, што звязана з ацэнкай аднаго важнага гістарычнага эпізода. Да апошняга часу было прынята лічыць, што замах на жыццё Гітлера ў лістападзе 1939 года быў інсцэніраваны самімі нацыстамі. Нацысты ахвотна ўжывалі метады палітычнай правакацыі. Прыклад такой правакацыі — падпал рэйхстага, які быў выкарыстан як прычына для масавага тэрору. Акалічнасці замаху, у выніку якога, нягледзячы на вялікія разбурэнні, не пацярпеў ніводны буйны чыноўнік «трэцяй імперыі», міжволі выклікалі падазрэнні. Афіцыяльная гітлераўская прапаганда прыпісала гэты замах брытанскай разведвальнай службе, якая, як было даказана, да гэтай акцыі дачынення не мела.*

Вечарам 8 лістапада 1939 года завадатары нацысцкай партыі Германіі сышліся на сваё штогадовае зборышча ў піўным бары Бюргербраў ў Мюнхене. Яны сядзелі ў вялікай зале з калонамі і, нібы загіпнатызаваныя, слухалі традыцыйную прамову фюрэра.

Гітлер і яго галоўныя падручныя паспешліва пакінулі залу а дзесятай гадзіне. Праз дванаццаць мінут, у калоне, за якой зусім нядаўна стаяў Гітлер, узарвалася магутная гадзіннікавая бомба. Калона захісталася і рухнула, разнёсшы ўшчэнт трыбуну і крэслы, што стаялі вакол. Забіта было сама меней шасцёра «старых камрадаў» і 63 паранены.

Хто падклаў бомбу? Чаму? І як здарылася, што яму не хапіла ўсяго 12 кароткіх мінут? Была гэта задума адзіночкі ці змова цэлай арганізацыі?

Я быў дванаццацігадовым хлопчыкам у тую ноч 8 лістапада 1939 года. Як і большасць хлапчукоў у нацысцкай Германіі, я быў членам «Гітлерюгенда», і мая галава была набіта нацысцкай прапагандай.

На наступны дзень нам паведамілі, што Гітлера выратавала святая божая сіла, што неадступна за ім сачыла. Нейкі тайны голас з неба, даступны толькі аднаму фюрэру, загадаў яму пакінуць Бюргербрау да выбуху. І хаця гэта версія была шыта белымі ніткамі, тое-сёе гаварыла ў яе карысць. Факт, што ў папярэднія гады Гітлер ніколі не пакідаў залу так рана. У яго ўвайшло ў звычку пасля сваёй прамовы некаторы час пасядзець, выпіць піва з партыйнымі бонзамі — «сваімі старымі баявымі таварышамі», як ён называў іх. У той памятны вечар ён не толькі пайшоў адразу ж пасля сваёй прамовы, але сама прамова была прынамсі на паўгадзіны карацейшая, чым звычайна.

Адначасова з гэтым міністэрства паведаміла некаторыя іншыя дэталі, у якія яно хацела прымусіць паверыць і нас, і ўвесь свет. Чалавек, які падклаў бомбу, сказалі мне, быў схоплен пры спробе перайсці швейцарскую граніцу. У ім апазналі камуніста па імю Георг Эльзер. Ён быў наёмнікам брытанскай разведкі, якая і ўчыніла ўсю гэту справу. Два брытанскія агенты былі схоплены на германа- галандскай граніцы. Гэта былі капітан Бест і маёр Стывенс.

Пакуль я ўбіраў у сябе гэту гісторыю, другія аглядальнікі надавалі ёй іншы сэнс. Вядомы амерыканскі журналіст Уільям Шырэр пісаў у сваім «Берлінскім дзённіку». «Так званы замах, безумоўна, падштурхне грамадскую думку на карысць Гітлера і падагрэе нянавісць да Англіі. Большасць з нас мяркуе, што ўсё гэта пахне другім падпалам рэйхстага».

Іншымі словамі, Шырэр хацеў сказаць, што нацысты, відаць, падстроілі гэты выбух у піўной самі з мэтай, папершае, паказаць, што Гітлер нібыта неўміручы, па-другое, настроіць публіку ў падтрымку будучай вайны з Англіяй. Гэта версія ўрэшце стала больш ці менш афіцыяльнай, расказвалася і пераказвалася амаль усімі вядучымі гісторыкамі таго часу.

Згодна з афіцыяльнай версіяй, гісторыя пачалася ў лагеры Дахау ў 1939 годзе. Георг Эльзер быў інтэрніраван там разам з тысячамі камуністаў і іншых палітычных зняволеных у канцы 30-х гадоў. Ён быў выдатны цясляр і майстар на ўсе рукі, і менавіта гэтыя яго якасці прывялі да яго гестапа, калі ўзнікла неабходнасць знайсці ўяўнага злачынцу. Гестапа абяцала яму свабоду, калі ён сыграе ролю. Ён згадзіўся. Ён зрабіў бомбу, падклаў яе пад наглядам гестапа ў піўной, устанавіў выбуховы механізм, паціснуў рукі паважаным афіцэрам гестапа і паехаў да швейцарскай граніцы. Пасля гэтага ён знік з арэны гісторыі.

Усё гэта проста і ўсё не проста. Канец вайны застаў мяне ў амерыканскім лагеры для ваеннапалонных непадалёку ад Франкфурта спалоханым падлеткам, усе мары якога рухнулі. Навокал мяне ляжала ў руінах мая Германія, краіна, якой Гітлер абяцаў сусветнае панаванне. У мяне больш не было ілюзій наконт Гітлера і нацызму. Я добра ўсведамляў, што нацызм быў бедствам для Германіі і для немцаў, уключаючы мяне самога. Усё, што ўбівалі мне ў галаву нацысцкія лідэры, было, як я зразумеў, хлуснёй.

Я больш не верыў фашысцкай версіі

